Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

7—13 лістапада 1998 года
№ 71 (151)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

ІВАЦЭВІЧЫ

## Вялікі Кастрычнік. Што было, тое і ёсць

Захоп улады бальшавікамі ў 1917 годзе суправаджаўся многімі бедствамі, расцягнутымі па часе на дзесяцігоддзі. Голад, холад, беспрацоўе, безгаспадарчасць, пошук "ворагаў народа", расстрэлы нявінных. І вось сёння людзі з чырвонымі сцягамі адзначаюць 81-ю гадавіну Кастрычніцкага ўзброенага перавароту. Чаго дабіліся, чаго дасягнулі?

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## ПТВ-162 — 20 гадоў

Узрост, так сказаць, юнацкі. Але за гэтыя два дзесяткі гадоў вучылішча падрыхтавала для народнай гаспадаркі раёна і вобласці 7600 маладых спецыялістаў. Некаторыя з іх працуюць ужо тут майстрамі і выкладчыкамі і сталі ўдзельнікамі ўрачыстасці з нагоды юбілею.

Павіншаваць калектыў вучылішча прыйшлі прадстаўнікі раённай вертыкалі, калгасаў імя Леніна і "Любішчыцы", госці з Брэста. Былі ўспаміны і віншаванні, узнагароды і тосты, песні і вершы. Дарэчы, наменнік дырэктара вучылішча Я. М. Дымовіч адзначаны Граматай Міністэрства адукацыі рэспублікі.

## Час перакопваць бульбу. Калгасную

Гаварыць, што бульбаўборачныя работы на вёсцы закончыліся, не прыходзіцца. Пакуль калгасы і саўгасы рапартуюць дзяржаве аб дасягненнях на бульбяных палетках, вяскоўцы выходзяць на калгасныя палі і перакопваюць тыя ўчасткі, што ў калгасе ў гэтым сезоне былі пад бульбай. А там, як аказваецца, ёсць што пашукаць. Да прыкладу, у калгасе "Іскра" жанчыны, пераважна пенсійнага ўзросту, выходзяць на поле цэлымі групамі і некаторым з іх удаецца накапаць да 100 кг бульбы. Пры рынкавай цане 7—8 тысяч за кілаграм на гэты прадукт тут можна нядрэнна зарабіць.

## Атрымалі дапамогу

Раённы камітэт Чырвонага Крыжа з дапамогай Амяльнянскага сельсавета развёз па хатах адзінокіх састарэлых і інвалідаў, у якіх падчас летняй непагадзі вымакла пасаджаная бульба, па 50—160 кілаграмаў клубняў. Бульбу атрымалі 40 жыхароў вёсак Амяльная, Глінная і Коланск. Агульная сума дапамогі склала 4 млн. 400 тысяч рублёў.

Дабрачынная акцыя ажыццёўлена за кошт сродкаў, выдаткаваных англійскім Чырвоным Крыжам.

## Стабілізацыя па-івацэвіцку

Па стану на 1 кастрычніка гэтага года запасы гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў Івацэвіцкага раёна склалі 46.308 мільёнаў рублёў. Гэта 31 працэнт ад прадукцыі, выраблена ў верасні. Прадукцыя своечасова не рэалізуецца, таму і няма патрэбнага заробку ў рабочых і служачых. Запазычанасць па зарплаце склала 729 мільёнаў рублёў.

Статыстыка сведчыць, што з 11 важнейшых відаў прадукцыі вытворчасць зніжана па шасці. У раёне зараз дзевяць стратных прадпрыемстваў, а за першае паўгоддзе іх было больш як два дзесяткі. Поспех, як кажуць, відавочны.

Калі верыць зводцы, у прамысловасці раёна толькі выкананне і перавыкананне і, значыць, поўная эканамічная стабілізацыя: выпуск таварнай прадукцыі склаў 114,4, тавараў народнага — 136,8 працэнта да адпаведнага перыяду мінулага года. Так што работнікі прамысловасці раёна могуць спадзявацца на рэзкае павелічэнне заработнай платы (сярэдняя зарплата ў месяц складае 3.150.500 рублёў). Але ці будзе так?

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, А. ГОРБАЧ, А. ЛАЎРАНЮК, С. КАЖАДУБ (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ, М. СІНКЕВІЧ (Бяроза).*

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ОЛЬГА, по гороскопу — Весы. Вкусы — самые разные, но для индивидуальности своей подчеркну, что не люблю Леонардо Ди Каприо. Мечтаю в своей жизни встретиться с сильным, уверенным мужчиной. Считаю, что деньги — не самое главное в жизни.*

## Плацяць за вось шафёры

З 1 лістапада на так добра знаёмай жыхарам Івацэвіч, Бярозы, Баранавіч "алімпійцы" ўведзена плата за праезд па тэрыторыі Беларусі.

Пакуль што беларускія ўладальнікі двухвосных "жалезных коней", будзь гэта "Запарожац" ці "Мерсэдэс-600", могуць спаць спакойна. Новаўвядзенне зачапіла тых, чый аўтатранспарт мае як мінімум тры восі.

За праезд жа трохвоснага аўтамабіля ўладальніку давядзецца выплаціць 10 долараў ЗША, за аўто на чатырох ці больш восях — 25. Беларусы разлічваюцца з дарожным ведамствам у рублях па курсу Нацбанка, іншаземцы — цвёрдай валютай (пры гэтым яны плацяць яшчэ 6 "зялёных" і за двухвосны транспарт).

Дарэчы, за 2 першыя дні 392 беларускіх вадзіцеля заплацілі каля 504 мільёнаў рублёў. Для параўнання: больш за тысячу іншаземных вадзіцеляў заплацілі 5599$, 10797 ДМ, 16711 — расійскіх рублёў.

Шматлікія дробныя аўтапрадпрыемствы Беларусі, што займаюцца, да прыкладу, перавозкай сельгаспрадуктаў, лічаць за лепшае на "алімпійку" і нос не паказваць.

## Пра зарплату і цэны

Выступаючы перад жыхарамі Чэрыкаўскага раёна, прэзідэнт А. Лукашэнка паабяцаў на 20—25 працэнтаў павысіць зарплату бюджэтнікам.

Акрамя таго, прэзідэнт заявіў, што да новага года сітуацыя з цэнамі стабілізуецца.

Прэзідэнт закрануў і пытанне аб кампенсацыі укладаў насельніцтва: "Мы спачатку выплацім удзельнікам вайны і інвалідам, — сказаў А. Лукашэнка. — 75-гадовым грамадзянам мы павінны выплачваць у гэтым годзе. А потым будзем выплачваць усё ніжэй і ніжэй: 65, 60 гадоў і да 40 — такім, як я. У мяне таксама ў свой час прапалі грошы, але да мяне чарга яшчэ не дайшла".

*БелаПАН.*

БЯРОЗА

## Молокозаготовители обсудили свои проблемы

Основное сырье ОАО «Березовский сыродельный комбинат» — молоко, которое поступает на переработку от хозяйств района и населения. При этом объем заготовленного молока из частного сектора составляет 20 % всего поступающего молока, однако есть и резервы, тем более, что есть предприятия, где молоко от населения составляет 30 % всего поступающего на переработку сырья.

В связи с этим на комбинате решили удвоить объем закупа молока от населения. Это открытие заготовительных пунктов по следующей цепочке: молокосборщики – заготовительный пункт – завод, которые уже действуют в Моревиле, Нарутовичах, Песках и в городском поселке Ружаны Пружанского района. Для улучшения качества молока закуплены холодильники французского производства от 320 до 2300 литров, которые гораздо экономичнее отечественных аналогов, удобны в работе.

Всего закуплено 46 холодильников. Установлены 20 в хозяйствах Дрогичинского, Березовского, Пружанского, Ивацевичского районов сырьевой зоны и для заготовки молока от населения.

Положительный эффект в улучшении качества молока дала и начатая два года назад работа по полному техническому обслуживанию и ремонту холодильного и доильного оборудования в хозяйствах. На обслуживании комбината находится 23 хозяйства и вся сеть заготовки молока от населения. Это дало реальный эффект в улучшении качества молока.

Расчет с сельчанами — в течении 15 дней за сданное молоко наличными. И сельчане, особенно дальних от города населенных пунктов, охотно сдают молоко комбинату, чем обеспечивают рентабельную работу предприятия. Это позволяет в свою очередь стимулировать хозяйства в увеличении объема производства молока и улучшении организации заготовки молока от населения.

Этим вопросам и был посвящен прошедший недавно в Березе республиканский семинар по организации закупа молока от населения. Участники его посетили заготовительный пункт в Нарутовичах, где установлено французское оборудование.

## "Мы пра БНФ забыліся"

Старшыня Бярозаўскай раённай рады БНФ "Адраджэнне" Сяржук Русецкі звярнуўся ў рэдакцыю мясцовай газеты "Маяк", каб даць у раёнцы платнае віншаванне — захацеў ад імя рады павіншаваць сяброў і прыхільнікаў з 10-годдзем Беларускага Народнага Фронту. Намеснік рэдактара Лярыса Завадзіч засумнявалася ў мэтазгоднасці такога віншавання: "Для чаго яно патрэбнае?" І прапанавала пачакаць некалькі дзён, пакуль выйдзе з водпуску рэдактар. Яўген Сяленя адмовіў у друкаванні, заявіўшы: "Мы ўжо забыліся пра БНФ. Мы афіцыйнае дзяржаўнае выданне. Няхай вашыя віншаванні друкуюць вашыя незалежныя газеты". Заўвага аб тым, што Беларускі Народны Фронт "Адраджэнне" — афіцыйная арганізацыя, зарэгістраваная ў Мінюсце, на рашэнне рэдактара ніяк не паўплывала.

Так што бярозаўскім сябрам БНФ трэба нагадваць пра сябе, каб пра іх не забываліся.

## Нас будуць выхоўваць

Наша газета паведамляла ўжо аб увядзенні на прадпрыемствах, дзе працуе болей за 300 чалавек, у калгасах і саўгасах пасады намесніка дырэктара (ці старшыні) па інфармацыйна-выхаваўчай рабоце. Стварэнне з новых "парторгаў" ідэалагічнай вертыкалі, якая павінна забяспечыць вертыкальшчыкам палітычным перамогу спачатку на мясцовых, а потым на "палатных" і прэзідэнцкіх выбарах, вядзецца сапраўды ўдарнымі тэмпамі. У Брэсце з "парторгамі" ўжо праведзена нарада, на якой з гарачымі прамовамі выступалі прадстаўнікі адміністрацыі Прэзідэнта, міністры ураду.

Паколькі пасада "парторгаў" — выдзеленая і з адпаведным заробкам, то ў жадаючых імі стаць недахопу няма. Лепш жа нейкую Марусю з калгасная, да прыкладу, фермы вучыць жыць, чым самому тых кароў даіць ці гной з фермы вывозіць.

Наменікі кіраўнікоў па інфармацыі абавязкова будуць удзельнічаць пры назначэнні на пасады інжынерна-тэхнічных работнікаў, пры налічэнні прэміяў. Ну, і, вядома, будуць нас усіх выхоўваць. А то адбіліся ад рук зусім мы...

*7 НОЯБРЯ — 81-Я ГОДОВЩИНА ОКТЯБРЬСКОЙ РЕВОЛЮЦИИ*

# КУДА ИДЁМ МЫ С КПБ...

*Что ни говорите, а коммунистическое движение переживает не лучшие времена. КПСС, ещё 10 лет назад единая, руководящая и направляющая сила общества, теперь раздробилась на ряд средних и мелких партий. В России, к примеру, семь таких партий. В Беларуси образовались две непримиримые партии — КПБ и ПКБ.*

*О роли КПБ в современных условиях, о принципиальных расхождениях между КПБ и ПКБ нашему корреспонденту А. ГОРБАЧУ рассказывает II секретарь Ивацевичского районного комитета А. Г. ТЭДДЭР.*

**— Альберт Генрихович, представьте, что перед вами аполитичный космополит, ко всем партиям чувствующий равнодушие. А как, кстати, КПБ на нынешнем этапе относится к инакомыслию?**

— По новой редакции Конституции человек имеет свободу совести, вероисповедания. Вы можете вступать в любую партию, секту, организацию — это ваше законное право и КПБ не осуждает этого. Наша цель — выражать волю народа, служить его чаяниям.

**— Прошел 81 год со дня революции, недавно вот хоронили расстрелянную большевиками царскую семью (в т. ч. детей), вспоминали репрессии 1937 года, замученных и уничтоженных в сталинских лагерях, тысячи расстрелянных священников, умерших от голода в Поволжье и т. д. Не слишком ли кровавыми были дела тех дней, бегущих под руководством партии?**

Та волна очернительства, с которой многие СМИ набросились на Ленина и Сталина, вызывает возмущение. Не могу согласиться с этими СМИ. Трудно обвинять в чём-то В. Ленина. Хоть во времена Сталина, надо признать, были некоторые перегибы. А вот то шоу, которое устроили в связи с похоронами царской семьи, возмущает: ведь царь Николай II при жизни звался кровавым. Ведь во время правления этого царя случилось Кровавое воскресенье, ленские расстрелы, Ходынка и т. д.

**— КПСС из мощной ещё в 1985 году превратилась в уже 1991 году в недееспособную партию, была запрещена. Почему?**

— В развале СССР — весь трагизм истории: и бывшей великой страны, и компартии. Но мы смотрим на вещи трезво. Ряды коммунистов покинули номенклатура и приспособленцы, для которых партбилет — партбланш для решения корыстных целей. Вспомните бесстыдное высказывание А. Бразаускаса: "Да, я был первым секретарём, но коммунистом никогда не был". В коммунистическом движении остался сейчас костяк настоящих коммунистов.

**— Не слишком ли старый по возрасту получается этот ваш костяк?**

— Согласен, что средний возраст коммунистов выше, чем хотелось бы. Но в этом плане у нас есть и утешительные моменты. Сейчас в наших рядах образуются молодежные секции, поэтому мы всё же верим в будущее. Учитывая возраст большинства членов КПБ, понимаешь, как важна для наших рядов молодая кровь.

**— Референдум 1996 года практически расколол такую мощную партию как ПКБ на две. Не слишком ли большая жертва плебисцита! Ведь дробление — свидетельство слабости, а не силы. Может даже — свидетельство раскаяния...**

— Считаю, что рано или поздно это должно было произойти. Лидеры ПКБ — Новиков, Калякин, Лашкевич — неверно оценили ситуацию и свою роль в ней. Президента Беларуси поддерживает большая часть населения республики, а быть в оппозиции к своему народу, как лидеры ПКБ, просто безграмотно. Политический экстремизм, агрессивность, популизм лидеров ПКБ настораживает. Требование сиюминутного восстановления СССР, социалистических принципов в экономике, роли партии — нереально.

**— Не пробовали найти общий язык!**

— Одно время — да. Была установка — не критиковать друг друга, поработать вместе. Но ПКБ и не справилась с такой установкой. Их газета "Товарищ" продолжала гнать, так сказать, волну на нас. Перемирия не получилось.

**— Какая политическая фигура наиболее уважаемая среди членов ПКБ!**

— Конечно, А. Лукашенко. За ним стоит простой народ. Мы не можем стоять в оппозиции к своему народу.

**— Но А. Лукашенко — не состоит в партии. У вас своя партия и свои лидеры. Почему бы вам не сделать опорой в своей деятельности лидера КПБ В. Чикина!**

— На данный момент мы не видим более достойной фигуры в политике, чем А. Лукашенко.

**— Но ведь А. Лукашенко — чистейшей воды оппортунист. Встречается с деятелями церкви, строит социализм, да рыночный, говорит что "не все было плохо тогда", что значит, что не всё и хорошо было. Не попутчик ли беспартийный А. Лукашенко для КПБ!**

— Нет, ни в коем случае в вашем смысле не попутчик. Мы не можем так относиться к политику, которому доверяет большая часть населения РБ.

**— Сложись такая ситуация, что лидер вашей партии В. Чикин набирает приличный рейтинг, почти такой, как А. Лукашенко, и выдвигает свою кандидатуру. За кого бы лично вы голосовали!**

— За А. Лукашенко. Наш Пленум решил: от КПБ кандидатов не выдвигать.

**— И последний вопрос. Количество членов в районной партийной организации КПБ и его руководство!**

— Первым секретарем РК КПБ является Скачков И. Е., вторым — я, третим — Курзов В. Ф., председатель ревизионной комиссии — Тарасевич И. А. (возраст всех — более 65 лет — *ред.*). Количество всех членов — 22 человека, а в Беларуси зарегистрировано 7,5 тысяч членов КПБ.






*Сердечно поздравляем дорогого и любимого сына, брата и внука ГОЛУБА Александра Александровича из д. Могилицы с 18-летием. Желаем крепкого здоровья, долгих лет жизни, пусть сбудутся твои заветные мечты.*

*Будь всегда, как*
*солнечный день,*
*Как чудесная*
*сказка.*
*Пусть жизнь*
*твоя будет*
*Все время*
*прекрасной.*
*Пусть сбудется*
*всё,*
*О чём ты*
*мечтаешь,*
*Пусть только*
*хорошее*
*В жизни узнаешь,*
*И пусть*
*не страшны*
*Тебе злые*
*невзгоды.*
*Счастливым будь*
*на долгие годы.*

*Мама, папа, бабушка, все близкие и родные.*



# Вялікі Кастрычнік. Што было, тое і ёсць

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Івацэвіцкая райгазета паведамляе, што "27 кастрычніка з аблвыканкама за подпісам яго старшыні У. А. Заламая ў райвыканкам прыйшло пісьмо. Сутнасць яго: рэзка скарціць расход газу ў сувязі з тым, што воблась не укладваецца ў даведзеныя ліміты".

"З каго "рэзаць"? — па-бальшавіцкі адкрыта і прама ставіць пытанне пракамуністычнага накірунку раёнка. А жыццё дае адказ: "рэзаць" будуць... з людзей. З каго ж больш? У Івацэвіцкай аптэцы амаль да самага свята Вялікага Кастрычніка быў холад нібы ў рэвалюцыю. "Ніхто і не думае пра тое, што на бетонный падлозе адстаяць дзень, гэта значыць, без ног застацца", — скардзіліся фармацэўты. "Несознательные", — сказаў бы пра іх дзядуля Ленін.

Сапраўды медыкам дрэнна, а беспрацоўным, што — лепш? Амаль да самага свята Вялікага Кастрычніка ездзілі яны ды пенсіянеры, якія на мізэрную пенсію пражыць не могуць, убіраць калгаснае дабро: бульбу, моркву, буракі. Як пачыналася усеагульная калектывізацыя пад дулам пісталета, так і прагічвае існаваць на амаль дармавой, прыгнечаной галечай рабсіле. Дармавой таму, што за цэлы рабочы дзень на восеньскім полі чалавек можа зарабіць толькі на паўкіло варанай каўбасы.

— Што тут зробіш лепшае, калі вакол поўна бэнээфаўцаў, дзермакратаў, спекулянтаў, вашывых блохаў-прадпрымальнікаў, — так і чуем мы голас чалавека з чырвоным сцягам. Правільна, ворагаў у нас шмат. Як былі ў 1917 годзе, так і ёсць. Няхай скажуць дзякуй, што па волі ходзяць. Праўда, не ўсе. Ёсць такія, як напрыклад, У. Кудзінаў, што і ў турме сядзяць. Абыдземся без яго мяса і каўбасаў — мы рэвалюцыйна "сознательные". Пры сярэднемесячнай зарплаце крыху больш за тры мільёны ідзем у магазіны, дзе бутэлька алею каштуе 270 тысяч рублёў. Як жывём? Як жылі, так і жывём. Праўда, не ўсе. Нехта і асабнякі сабе будуе, і сервелат есць, і шампанскае п'е.

"Ешь ананасы,
Рябчиков жуй!
День твой последний
Приходит, буржуй!" —

пісаў рэвалюцыйны паэт Маякоўскі.

Але праз 81 год Кастрычніцкай рэвалюцыі ў нас буржуяў няма. Вось гэта ўжо — дасягненне!

## 10 снежня — 50 гадоў Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека

*Як мы паведамлялі ўжо, 14-16 кастрычніка ў Варшаве праходзіла III міжнародная канферэнцыя па правах чалавека, прысвечаная 50-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і святкаванню Сусветнага года правоў чалавека. У рабоце гэтага форуму ўдзельнічала жыхарка г. Івацэвічы З. М. Кудзінава, былая жонка дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання У. А. Кудзінава, які ўжо другі год знаходзіцца за турэмнымі кратамі.*

*Наш карэспандэнт сустрэўся з З. М. Кудзінавай і папрасіў яе падзяліцца сваімі думкамі і ўражаннямі пра паездку ў Варшаву.*



●*ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ: ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ, СВАБОДУ...*

# “Я ВЕРУ, ШТО СПРАВЯДЛІВАСЦЬ ПЕРАМОЖА...”

**— Перш-наперш, Зоя Міхайлаўна, віншую вас з удзелам у такім прэстыжным міжнародным форуме. Скажыце, калі ласка, як жа вы туды трапілі? Не кожны , згадзіцеся, можа паехаць за мяжу на такую важную сусветную нараду.**

— Дзякую за віншаванне. Сапраўды, не кожнага запрашаюць туды. Я атрымала запрашэнне ад старшыні арганізацыйнага камітэта Польскага сенатара Збігнева Рамашэўскага. Ён ад імя арганізатараў канферэнцыі і запрасіў мяне ў Варшаву. І я ў складзе беларускай дэлегацыі паехала ў Польшчу.

**— І не шкадуеце?**

— Ніколькі. Сустрэўшыся з праваабаронцамі ўсяго свету, я зразумела, што гэта вельмі магутны ўплывовы рух, і з кожным годам ён пашыраецца і мацнее. Думаю, што ва ўсім свеце не толькі сочаць за ім, але і прымаюць да ўвагі дакументы, выпрацаваныя на канферэнцыях.

**— Вы ў гэтым упэўнены, Зоя Міхайлаўна?**

— Можа не на ўсе сто працэнтаў, але ўпэўнена. Размова ж ідзе аб самым святым для кожнага чалавека – забеспячэнні яго правоў і свабод. Толькі самы чорствы і неклапатлівы правіцель можа не прыслухацца да разумных довадаў і рэкамендацый. Мне, здаецца, што я правільна разважаю. Ці не так?

**— Я не сумняваюся ў гэтым. Таму і хочацца пачуць аб тым, які склад удзельнікаў форуму, хто з беларусаў-праваабаронцаў прысутнічаў на канферэнцыі, дзе і як распачыналася яе работа?**

— У Варшаву прыехалі грамадскія дзеячы, праваабаронцы, палітыкі, вучоныя, прадстаўнікі духавенства, ахвяры палітычных рэпрэсій з многіх краін свету. З нашых праваабаронцаў хацела б вылучыць вядомых палітыкаў Шушкевіча, Хадыку, Саннікава, Грознову... Словам, былі прадстаўнікі з усіх беларускіх рэгіёнаў. Зянона Пазняка на канферэнцыі не было. Ён прыслаў толькі тэлеграму.

Канферэнцыі папярэднічала літургія ў гонар палітвязняў, якія пацярпелі ў барацьбе за правы чалавека і таксама тых, хто знаходзіцца за турэмнымі кратамі. Яна прайшла ў каталіцкім храме.

Сам форум праходзіў у польскім сейме. Звыш 600 чалавек запоўнілі залу. Канферэнцыю адкрыў і першы дзень яе вёў сенатар Збігнеў Рамашэўскі. Ён зачытаў прывітанне ўдзельнікам канферэнцыі ад арганізацыйнага камітэта. Былі агалошаны прывітанні ад імя Маршала сената Польшчы, ад Старшыні Савета Міністраў, ад імя міністра замежных спраў, а таксама прывітальныя пасланні на адрас канферэнцыі.

**— Як жа, Зоя Міхайлаўна, удзельнікі форуму рэагавалі, калі ім прадстаўлялі розныя дэлегацыі, на шматлікія пасланні і прывітанні?**

— Хачу падкрэсліць, што вельмі цёпла і зацікаўлена. Асабліва шмат гарачых апладысментаў атрымала Чачэнская дэлегацыя на чале з прэзідэнтам Асланам Масхадавым, якая ўпершыню ўдзельнічала ў такой міжнароднай нарадзе.

**— Як я зразумеў, канферэнцыя пачала сваю работу ў прыўзнятым настроі і думаецца ў такім жа ключы працягвала працаваць. Калі нецяжка вам, Зоя Міхайлаўна, то скажыце, як была спланавана работа форуму?**

— Па-першае, у вестыбюлі сейма была адкрыта выстава плакатаў, якія паступілі на конкурс на тэму захавання правоў чалавека. Гэта сапраўды цікавае відовішча. Акрамя гэтага, сярод удзельнікаў канферэнцыі былі распаўсюджаны бюлетэні Хартыі-97 пра беларускіх палітзняволеных А. Клімава, У. Кудзінава, А. Шыдлоўскага. Падругое, кожны з запланаваных трох дзён распісаны літаральна па хвілінах. Першыя два дні да абеду і трэці пасля яго праводзіліся плянарныя сесіі. Астатні час быў адведзены для работы чатырох груп па розных пытаннях, звязаных з захаваннем правоў чалавека ў розных краінах свету.

**— Мне здаецца, што гэта было зроблена для таго, каб кожны ўдзельнік з карысцю для сябе мог ці выступіць, ці выказаць сваё меркаванне, ці задаць пытанне і атрымаць грунтоўны адказ. Можа, Зоя Міхайлаўна, я не так мяркую?**

— Зусім верна. Кожная хвіліна была на ўліку. Дзелавая частка канферэнцыі пачалася з даклада «Правы чалавека ў грамадскім вучэнні каталіцкай царквы», які зрабіў епіскап Пятро Ярэцкі.

На плянарных сесіях выступілі многія праваабаронцы свету — з Англіі, ЗША, Расіі, Кубы, Славакіі, Паўночнай Карэі, Кітая, Польшчы...

У другі дзень выступаў былы Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Яму было адведзена 20 хвілін. У сваёй прамове Станіслаў Станіслававіч гаварыў аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, аб палітзняволеных, што сядзяць за турэмнымі кратамі, аб уціску свабоднай прэсы, аб росце колькасці палітычных бежанцаў з нашай рэспублікі, аб адсутнасці незалежнай судовай сістэмы ...Словам, ахарактарызаваў становішча з правамі чалавека ў нашай Беларусі.

**— Акрамя прадстаўніка Беларусі, хто яшчэ выступаў на канферэнцыі?**

— Спярша быў агляд становішча ў галіне захавання правоў чалавека у свеце. З ім выступіла Энні Барлет, дырэктар Еўрапейскай праграмы AI, Вялікабрытанія. Затым былі выступы праваабаронцы, былога вязня гестапа Джайнеты Саган (ЗША), члена камітэта па правах чалавека ААН Рамана Верушэўскага (Польшча), дэпутата Дзярждумы Расіі, былога палітзняволенага Сяргея Кавалёва, кіраўніка савета дырэктароў грамадзянскага саюза дапамогі палітычнам зняволеным у Паўночнай Карэі Йон Х'юнь і многіх іншых. Карацей кажучы, усе тры дні і на плянарных сесіях, і асабліва ў групах ішла самая зацікаўленая размова па розных пытаннях становішча з правамі чалавека ў розных краінах свету. Кожны прысутны мог задаць пытанне дакладчыку, прыняць удзел у дыскусіі, выказаць свае меркаванні і прапановы.

**— Вядома, што сама канферэнцыя па правах чалавека, — гэта знамянальная падзея ў *міжнародным жыцці*. Правядзенне яе было выклікана пагаршэннем становішча з правамі чалавека ў розных краінах свету. Нас у першую чаргу цікавіць тое, як сусветны форум прарэагаваў на яўныя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі?**

— Прарэагаваў, можна сказаць, без усялякіх спрэчак і затрымак. Вынікам гэтага і з'яўляецца рэзалюцыя «Становішча з правамі чалавека ў Беларусі». Гэтая рэзалюцыя ў скарочаным варыянце ўжо была апублікавана ў незалежнай прэсе. Нагадаю некаторыя палажэнні гэтага дакумента. У Беларусі пагаршаецца становішча з правамі чалавека. Беларускія ўлады падвяргаюць ганенням незалежную прэсу і журналістаў; пазбаўлены сваіх правоў законна выбраныя дэпутаты Вярхоўнага Савета; у турмах трымаюць палітзняволеных; парушаюцца правы прафсаюзаў; тыя, хто інакш думае, пазбаўлены магчымасці працаўладкавання; расце колькасць палітычных бежанцаў з Беларусі; на практыцы не рэалізуецца права выбару мовы навучання...

Канферэнцыя заклікала беларускага прэзідэнта і ўрад захоўваць абавязацельствы Беларусі, якія яна нясе ў адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі ў галіне правоў чалавека, неадкладна вызваліць палітычных зняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі А. Клімава, У. Кудзінава, а таксама А. Шыдлоўскага, Т. Кійко, В. Лыско, В. Плешчанку.

**— Як на ваш погляд, Зоя Міхайлаўна, ці атрымаюць шырокі рэзананс дакументы, прынятыя на канферэнцыі? Бо дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, наколькі мне вядома, пакінулі па-за ўвагай гэты міжнародны форум.**

— Гэта зусім натуральна. Хто ж хоча прызнавацца ва ўласных памылках? Вышэйшыя чыноўнікі наадварот сцвярджаюць, што ў Беларусі больш дэмакратыі, чым ва ўсёй Еўропе. Але мне здаецца, што тут моцна перагнулі палку. Што ж тычыцца рэзанансу, то ён ужо шырыцца з кожным днём. І беларускія ўлады, падпісаўшыя міжнародныя дакументы, не могуць не лічыцца з рашэннямі канферэнцыі. Толькі недальнабачны палітык можа праігнараваць гэты форум.

**— Гаворачы пра канферэнцыю, хацеў бы пачуць ад вас, Зоя Міхайлаўна, колькі слоў пра тую атмасферу, у якой яна праходзіла.**

— Калі сказаць коратка, то гэта атмасфера добразычлівасці, узаемапавагі і ўзаемаразумення. На сесіях, у час работы ў групах,на абедах і за кубкам кавы, нягледзячы на моўны бар'ер, члены канферэнцыі знаходзілі агульную мову, мелі зносіны між сабой і, здавалася, што мы сустракаліся, як добрыя знаёмыя не першы раз.

**— Калі напомнілі пра сустрэчы, то, відаць, на канферэнцыі іх было нямала. Якія з іх, Зоя Міхайлаўна, вы б хацелі вылучыць?**

— Скажу шчыра, што ўсе сустрэчы запомніліся, бо гэта былі вядомыя людзі ў свеце – вучоныя, палітыкі, праваабаронцы, грамадскія дзеячы... Хачу адзначыць такую дэталь, што Беларуссю сёння цікавяцца многія і ў самых уплывовых арганізацыях свету. Так, прадстаўнік ААН на канферэнцыі Петр Іл, падышоўшы да беларускай дэлегацыі, спытаў мяне. Ён цікавіўся маім жыццём, справай Кудзінава. Я падарыла Петру Ілу кніжку «Справа Кудзінава» з памятным надпісам.

Вельмі важным, я так лічу, было знаёмства з Ганнай Бурлей, дырэктарам еўрапейскай рэгіянальнай праграмы міжнароднай амністыі, якая сур'ёзна зацікавілася справай Кудзінава.

Цёплай і шчырай была размова з Аленай Георгіеўнай Боннэр, жонкай Сахарава. Яна паспачувала мне і ў той жа час падбадзёрыла, маўляў, не ўсё яшчэ згублена, змагацца трэба да канца і ні ў якім разе нельга апускаць рукі.

Адбылося знаёмства з Антонам Бенхардам, дарадцам польскага прэзідэнта Квасьнеўскага; з ксяндзом Здзіславам Е. Пемкоўскім, памочнікам Папы Рымскага Паўла І; з Сяргеем Грыгар'янцам, які ў Расіі ўзначальвае рух «Галоснасць». Дарэчы, Грыгар'янц зацікавіўся справай Кудзінава, узяў з сабой кніжку пра яго і паабяцаў пазнаёміць са справай майго мужа грамадскасць Расіі.

Хачу дадаць, што, сустракаючыся з вядомымі людзьмі, я распавядала яшчэ і аб гаспадарчай дзейнасці Кудзінава. У прыватнасці, гаварыла пра падсобную гаспадарку ў вёсцы Гічыцы. Пасля таго, як Кудзінава пасадзілі за турэмныя краты, падсобную гаспадарку поўнасцю разграбілі. Вінаватых, як і ў добрыя савецкія часы, не знайшлі. І стаяць зараз тыя абдзёртыя сцены, як помнік рыначнага сацыялізму.

**— Тры дні знаходжання ў Польшчы. Тры дні знаёмстваў і сустрэч. З якім настроем, Зоя Міхайлаўна, вы вярнуліся дамоў?**

— Ведаеце, настрой самы аптымістычны, нягледзячы ні на што. А гэта: пастаянны праслед і пагрозы мне за тое, што я расказваю праўду і змагаюся за вызваленне свайго мужа з-за турэмных кратаў; непрадастаўленне мне работы па спецыяльнасці. У такіх умовах беларускай «дэмакратыі» вельмі цяжка жыць і змагацца. Але я адчуваю маральную і матэрыяльную падтрымку простых людзей, і гэта мне надае сілы і ўпэўненасці. Я веру, што справядлівасць пераможа. Гэты аптымізм і надзею на лепшае ўсяліў у маю душу міжнародны форум у Варшаве.

*Гутарыў С. КАЖАДУБ.*

*АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?*

# Як хутка і якасна адрамантаваць абутак?

*— Скажыце, калі ласка, ці ёсць у нашым горадзе, акрамя дзяржаўнай майстэрні па рамонту абутку, што на прывакзальнай плошчы, яшчэ падобныя майстэрні, дзе магчыма хутка адрамантаваць абутак? Справа ў тым, што ў вышэйназванай майстэрні тэрмін рамонту складае 2-3 тыдні. Каго могуць задаволіць такія тэрміны?*

*А. ДЫЛЬКО (г. Івацэвічы).*

Сапраўды, у майстэрні, што на прывакзальнай плошчы, тэрмін рамонту – 2-3 тыдні. Як паведамілі нам абутнікі, зараз, у дэмісезонны перыяд, нашы суграмадзяне «толькі ўспомнілі аб неабходнасці рамонту абутку, асабліва зімняга, хоць цэлае лета мы сядзелі без работы».

Такім чынам, народная прымаўка «рыхтуй летам сані, а зімой калёсы» вельмі актуальна для нашага выпадку. Тым больш, што іншых майстэрняў у Івацэвічах няма. Некалькі гадоў таму была ў горадзе кааператыўная майстэрня па вуліцы Паштовай (зараз тут магазін «Карына»). Тут, увогуле, маглі адрамантаваць абутак за лічаныя гадзіны. Але зачынілася: сённяшні час не для прадпрымальнікаў, якія для ўлад і іх падлізнікаў «прыхватызатары», «драпежнікі», «п'яўкі», якія «рабуюць просты народ». Праўда, без гэтых прадпрымальнікаў часам гэтаму простаму народу ледзь не босым прыходзіцца хадзіць. Хоць гэта ўжо зусім іншая тэма.

